# МАЙ

Я. КУПАЛА

Да нас у госці Май прыходзіць,
А з новым шчасцем кожны год, —
Заводзіць песні ў карагодзе,
А ў карагодзе сам народ.
Бурляць крыніцы, бор шуміць,
Рунее зелена загон,
Як не спяваць тут, як не жыць
У казках-былях нашых дзён!..

# ВЯСНА

А. ПЛЕШЧЭЕЎ



Траўка зелянее,
Сонейка блішчыць;
Ластаўка з вясною
Ў сені к нам ляціць.

З ёй яснее сонца
І вясна мілей...
Праспявай з дарогі
Нам прывет хутчэй!

Дам зярнят табе я;
Толькі заспявай,
Што з краін далёкіх
Прынясла ў наш край.



Агульны від павільёна і сквера ля Доміка-Музея таварыша І. В. Сталіна ў Горы.

# НА РАДЗІМЕ ТАВАРЫША СТАЛІНА

Г. КАМЯНЕЦКІ



Золак. З-за Каўказскіх гор надышоў дзень. Нешта не спіцца. Гляджу ў акно і бачу: прыгожы горад Тбілісі ўжо прачнуўся. Па вуліцах ужо спяшаюцца на работу. Дзе-нідзе ў вышыні плывуць серабрыстыя хмарачкі.

З усіх рэспублік нашай радзімы з'ехаліся сюды пісьменнікі святкаваць 750-гадовы юбілей з таго дня, як вялікі грузінскі паэт Шота Руставелі напісаў выдатны твор „Віцязь у тыгравай скуры". А сёння ўсе ўдзельнікі святкавання гэтага выдатнага юбілея наведаюць горад Горы.

Баючыся спазніцца к цягніку, я аклікаю сваіх таварышоў. Аказваецца, што яны ўжо даўно не спяць. Таксама, як і я, ляжаць і думаюць пра горад Горы, куды мы сёння так усе імкнемся.

Потым я сядзеў у вагоне, не адрываючыся ад акна, і ўсё шукаў вачыма. Так мы даехалі да горада Горы.

Прыгожы вакзал. Ля вакзала—вялікі натоўп дзяцей, вучняў, рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі. Тут ля вакзала быў праведзен мітынг, на якім нас дружна віталі. Не ведаючы грузінскай мовы, я адчуваў, што кожнае слова гучыць бязмежнай любоўю да нашай радзімы, да нашай культуры. Мітынг прадаўжаецца. Навокал зззяючыя вочы, якія гавораць аб моцнай дружбе людзей розных народаў. Адзін прамоўца звяртаецца да дзяцей, якія тут-жа стаяць: будзьце такімі, як Сталін! Сабраўшыяся слухаюць уважліва, навокал такая цішыня, што чуеш стук уласнага сэрца. Цішыня і светлая радасць. У дзяцей у руках кветкі. Дваццаць шостага снежня—і кветкі.

Пасля сканчэння мітынга мы паехалі ў горад.

Горад Горы адзін з старэйшых гарадоў Грузіі. Ён заснован у XVII стагоддзі. Дзве ракі—Кура і Ляхва—амываюць горад з поўдня і поўначы. Горы акружан пладовымі садамі і вінаграднікамі.

У гэтым горадзе, у 1879 годзе нарадзіўся Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Бацька таварыша Сталіна, Вісарыён Іванавіч Джугашвілі, быў шаўцом. Ён нарадзіўся ў вёсцы Дзідзі-Ліло і па паходжанню ён з сялян. Маці таварыша Сталіна—Екацерына Георгіеўна, на-

радзілася ў вёсцы Гамбарэулі і па паходжанню таксама з сялян.

І вось яна тая хата, дзе нарадзіўся таварыш Сталін.

Хатка састаіць з двух пакояў. У адным пакоі жыла сям'я Вісарыёна Іванавіча Джугашвілі, а ў другім пакоі—гаспадар хаты.

У пакоі, дзе таварыш Сталін правёў свае раннія дзіцячыя годы, знаходзяцца: просты стол, засланы палатняным абрусом, на стале—гліняная талерка, цёмна-жоўты гліняны кубак і медная газавая лямпа. У кутку пакоя стаіць шырокая тахта, засланая двума квяцістымі, вясковымі коўдрамі, і падушачка. У пакоі стаяць чатыры неафарбаваных табурэткі, невялікая скрыня, дзе хавалася ўся маемасць гэтай сям'і. Вось выглядае сонца з-пад хмаркі і некалькі праменняў адлюстроўваюцца на бліскучым, медным самавары, на медным тазе і асвятляе фарфаравы чайнік, які стаіць на самавары. На сцяне вісіць ручнік.

У другім пакоі, дзе некалі жыў гаспадар, цяпер знаходзяцца: на адной сцяне—фотаздымак горада Горы, партрэт маці таварыша Сталіна. На яе твары многа чалавечага дастоінства, сілы. Гэта паказваюць яе чорныя, мудрыя вочы. Там-жа і партрэт таварыша Леніна, засняты ў 1905 годзе, партрэт таварыша Сталіна, засняты ў 1902 годзе. На другой сцяне фотаздымак метрычнага запісу таварыша Сталіна, яшчэ адна фатаграфія і пасведчанне аб тым, што Іосіф Вісарыёнавіч выдатна скончыў Горыйскую духоўную школу. Тут-жа здымак таварыша Сталіна ў 1893 г.

Пры гэтай хаце маецца яшчэ скляпок, дзе працаваў бацька таварыша Сталіна, Вісарыён Іванавіч. Сцены тут закопчаны і ледзь-ледзь асвятляюцца двума малюсенькімі акенцамі. Крывы слупок падпірае столь. Ад усяго, што тут некалі было, засталася толькі адна старая табурэтка.

Мы на дварэ. Надвор'е яснае, цудоўнае. Мы глядзім на горы, на тыя самыя, на якія глядзеў ў свае дзіцячыя годы Іосіф Вісарыёнавіч Джугашвілі.

Маці таварыша Сталіна, Екацерына Георгіеўна, мела трох сыноў. Але з трох у жывых застаўся толькі адзін Сосо. Маці вельмі даражыла ім, моцна любіла яго. Сям'я жыла бедна. Маці шыла, мыла бялізну і пякла хлеб для багатых гаспадароў, абы толькі яе любімы сынок Сосо меў-бы што апрануць або паесці.

Па гэтых вуліцах, па якіх мы ідзем, некалі хадзіў у школу таварыш Сталін, апрануты ў сіняе паліто, у ботах, у войлачным капелюшы, у шэрых вязаных пальчатках, з чырвоным шалем на шыі, а за плячыма торбачка з чырвонага паркалю. Твар у яго быў худы, але ён быў моцны і жвавы, не чураўся людзей і вылучаўся сваёй скромнасцю і чэснасцю. Ён быў здольным і таленавітым вучнем. У трынаццаць год ён быў знаём з вучэннем Дарвіна. Ён многа чытаў, і яго цягнула да вялікіх спраў.

Аднойчы ў летні прыгожы дзень ён растлумачыў свайму блізкаму прыяцелю:

— Ведаеш, хлусяць усё, няма ніякага бога. Усё гэта мана, ты пачытай Дарвіна, абавязкова пачытай, убачыш, што свет зусім інакш пабудован.

У 1894 годзе, пятнаццацігадовым юнаком, таварыш Сталін канчаткова пакінуў горад, дзе ён нарадзіўся, і пайшоў у свет.

Сонца падымаецца ўсё вышэй. Мы вышлі на рынак горада Горы. Я захацеў напіцца. Падыходжу да старэнькай грузінкі і бяру ў яе чарку віна. Віно някрэпкае і смачнае. Я і мае таварышы п'ем яшчэ. Мы заплацілі і хацелі пайсці далей. Але старая ўзяла з кошыка бутэльку віна, паклікала маладую грузінку, якая ведала рускую мову, і звярнулася да яе:

— Скажы ім,—сказала яна, трымаючы ў руцэ бутэльку віна і павярнуўшыся галавой у наш бок,—скажы ім, што я ведаю, хто яны і адкуль. Гэта госці, якія прыехалі паглядзець хату, дзе нарадзіўся вялікі Сталін.—Яна падала нам бутэльку і дадала:—Плаціць не трэба. Я іх частую.

Мы выпілі пачастунак, развіталіся са старой, пажадалі ёй многа год жыцця і пакінулі горад Горы.

Перад нашымі вачыма ўвесь час стаяў вобраз нашага вялікага правадыра, вобраз Сталіна, які нас вядзе наперад, вучыць нас любіць сваю дарагую радзіму і ненавідзець нашых ворагаў.

Гэта падарожжа адбылося дваццаць шостага снежня тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмага года. Гэты выдатны дзень у маім жыцці я не забуду ніколі.

# Садавод

Верш ВАС. ЛЕБЕДЗЕВА-КУМАЧА

Край вясною поўнаводнай,
Як вялізны сад стаіць,
І глядзіць садоўнік родны
На работу рук сваіх.

Радасць матыльком вясёлым
Пралятае па кустах,
Песні ўюцца, быццам пчолы
Залатыя па садах.

Яблыні растуць і травы,—
Дзе былі пустыр і сон...
Садавод глядзіць ласкава
І паціху кажа ён:

— Недарэмна нашы людзі
Пралівалі кроў і пот,—
Сёння светлае, а будзе
Лепшым кожны новы год!

Дзень і ноч з вясёлым шумам
Сад расце, як сонца ўсход,
Дзень і ноч рабоце, думам
Аддаецца садавод.

Аглядае ён дазоры
Пільным позіркам сваім,
Каб у садзе кожны корань
Быў па свойму дарагім.

Ён памочнікаў спытае:
Злодзей не прайшоў цішком?
Пустазелле пазмятае,
Дасць работу ўсім кругом.

Пар ідзе ад чорназёма,
Зззяюць кропелькі расы...
Родны ўсім і ўсім знаёмы
Усміхаецца ў вусы.

*Пераклад з рускай мовы*
*Э. АГНЯЦВЕТ*

# ДУМЫ

Як струменяць рэкі
Сонечнай вясной,
Так імчацца думкі
Ў галаве маёй.

Паляцець хачу я
Горда над зямлёй,
Паляцець пад сонца
З думкаю сваёй.

Дзе вясёлы вецер
Вее без турбот,
Хмары залатыя
Водзяць карагод.

І яшчэ хачу я
Паляцець туды,
Дзе, як сонца свеціць
Сталін—правадыр.

Расказаць яму ўсё
Ад душы праўдзіва,
Перадаць падзяку,
Бо жыццё шчасліва.

Дзяткор В. Шастакоў

Аршанскі р-н.




# Дружная сямейка

Э. КАГАН

Рысункі А. ВОЛКАВА

Бацька завецца Зяма, а маці завецца Злата. Калі дзеці хочуць спяваць, яны перакручваюць імёны і ў іх выходзіць якраз наадварот:

Тата Зяма,
Мама Злата.
Тата Злата,
Мама Зяма.

І дзеці думаюць, што матку трэба было зваць Зяма, бо сапраўдным бацькам у хаце яна. Па-першае, акуляры носіць маці, а падругое—усе абавязаны яе слухацца, нават бацька яе слухаецца. Бацькава галава занята вынаходніцтвам. Ён працуе на фабрыцы дзіцячых цацак; дык хоча выдумаць такую ляльку, якая-б ішла, як чалавек. Калі ён есць, у яго выліваецца суп з лыжкі, бо ён думае пра сваю ляльку. Уночы ён гаворыць праз сон, бо яму сніцца яго лялька. Калі ён ідзе дамоў, дык апыняецца аж на дзесятай вуліцы, бо ён думае пра сваю ляльку. Аднаго разу ён усыпаў тытун у чайнік, а чаем напхаў люльку,—бо вечна думае пра сваю ляльку. Вось які бацька. Валасы не трымаюцца на яго галаве ад вечных думак. Маці кажа, што калі ён так будзе думаць яшчэ пару месяцаў, думкі яго пачнуць вылазіць з яго вушэй, з пят і кішэняў.

Маці не хоча, каб ён так многа думаў. „Задуманы чалавек не можа быць ударнікам“, кажа яна. Шмат рабочых прэміравалі к Першаму Мая, а бацьку не, бо ніхто не ведае, аб чым ён думае. Бо каб ведалі, што ён думае аб хадзячай ляльцы, яго напэўна прэміравалі-б. Але ніхто не ведае.

Маці заўсёды гаворыць пра бацьку:

— Чалавек вечна думае і думае, думае і думае.

Яна робіць шум на ўсю хату, бо так гаворачы пра бацьку: „думае і думае“, здаецца, што яна барабаніць языком:

— Дум-дум-дум, дум-дум-дум.

Маці не вельмі шануе бацьку, бо ён вечна думае. Старшая сястра Нюся не вельмі шануе маці, бо тая не вельмі шануе бацьку. Сярэдні брат Сёма не вельмі шануе старшую сястру, бо яна не вельмі шануе маці. Ён упэўнены, што маці правільна кажа пра бацьку. Маленькая сястрычка Мая не вельмі шануе сярэдняга брата, бо ён не вельмі шануе старшую сястру. Маці не слухае, што гаворыць бацька; старшая сястра не слухае, што гаворыць маці; сярэдні брат не слухае, што гаворыць старшая сястра; маленькая сястрычка не слухае, што гаворыць сярэдні брат. Лялька не слухаецца

маленькай сястрычкі Маечкі. Маечка хоча, каб яна, лялька, пайшла, а лялька не хоча ісці. І Маечка плача.



Бацька тады кажа:

— Не плач, Маечка. Я хутка прыдумаю такую ляльку, што пойдзе, як чалавек, і расчыніць і зачыніць вочы і будзе яна прыгажэйшая за ўсіх лялек на свеце, за ўсіх лялек, якія былі ў розныя часы ў розных краінах.

Маці тады кажа:

— Стопчаш пяць пар чаравікаў, пакуль зробіш такую ляльку. Венік танцуе, качарга кукарэкуе, сцяна рухаецца?—Вось так будзе рухацца твая лялька. Думаеш і думаеш, думаеш і думаеш, думаеш і думаеш.

Старшая сястра тады кажа:

— Мама, ты пачала ўжо сваё дум-дум-дум. Калі тата так доўга думае, дык зробіць.

Сярэдні брат тады кажа:

— Не туды заехаў! Калі мама кажа, што тата не зробіць, дык не зробіць.

Малодшая сястра тады кажа:

— Тата ўсё-ж такі зробіць, каб лялька ўсё-ж такі пайшла. Чуеце, хачу каб лялька пайшла, каб лялька пайшла хачу. Каб пайшла лялька хачу!

А лялька маўчыць, не рухаецца з месца. Не слухаецца.

І Маечка пачынае плакаць.

Тады маці пачынае пець песню, каб Маечка не плакала. Як маці спявае, здаецца, што ўсе птушачкі пяюць. Як маці спявае, становіцца светла па ўсіх кутках. Як маці спявае, усе становяцца такія добрыя, і маці пазірае тады на бацьку добрымі вачыма, старшая сястра—на маці, брат—на сястру, Маечка—на брата, лялька—на Маечку.

Калі яна канчае спяваць, бацька кажа да маці:

— Ты так добра пяеш, аж за сэрца хапае. Ты павінна падацца туды, дзе пяюць—у кансерваторыю, дык з цябе выйшла-б вялікая спявачка, і ўся краіна цябе слухала-б па радыё.

Тады маці кажа:

— Зіма, ты так задумаўся аб сваіх ляльках, ажна не ведаеш, на якім ты свеце. Не магу з хаты выходзіць, бо ты вечна нібы сон сніш. На цябе нельга дзяцей пакідаць. Выкінь з галавы лялькі, тады пайду вучыцца спяваць.

Але бацька зноў думае і не адказвае.

Тады маці кажа да старшай сястры:

— Ужо некалькі месяцаў ты малюеш карціну зімы, ды ўсё не канчаеш. Пара канчаць.

Сястра кажа:

— Калі вечна барабаніш: дум-дум-дум. Каб маляваць, трэба каб было ціха. Мне трэба намаляваць ціхі снег і ціхія дрэвы. А ў нас так шумна.

Тады кажа сястра да сярэдняга брата:

— Чаму ў цябе ўсё на „пасрэдна“, мог-бы мець „добра“.

Тады сярэдні брат кажа:

— Калі ў хаце вечна дум-дум-дум, шум. Цяжка рыхтаваць урокі.

Тады сярэдні брат кажа да Маечкі:

— Чаму заўсёды плачаш? Вечна плачаш.

Маечка адказвае:

— Бо хачу, каб лялька пайшла. Каб лялька ішла хачу я!

І зноў тое самае. Маці злуецца на бацьку за тое, што ён думае аб сваіх ляльках; бацька не задаволен маткай, бо яна не ходзіць вучыцца ў кансерваторыю; маці не задаволена старшай сястрой, бо тая не заканчвае малюнка; старшая сястра не задаволена сярэднім братам, бо ён вучыцца толькі на „пасрэдна“; сярэдні брат не задаволен Маечкай, бо яна часта плача; Маечка не задаволена лялькай, бо тая не ходзіць,

Але суседзі пра гэта не ведаюць. Усе суседзі гаварылі:

— Як весела ў хаце Зямы і Златы.

Бо яны чулі як Злата спявае. А калі Злата пачынае спяваць, тады суседзі тушаць прымусы, перастаюць грукаць сякерай па паленах, расчыняюць вокны і прыслухоўваюцца.



А пасля яны кажуць:

— Які слаўны чалавек вось гэты Зяма!



— Які прыгожы голас у Златы!

— Якая мілая дзяўчынка Маечка!

Аднаго разу ўсе прачынаюцца раніцой, бачаць, што ў бацькі зусім іншы выгляд. Зусім не ўчарашні і не пазаўчарашні бацька. Нібы навюткі, новы чалавек.

Ён падышоў да маці і сказаў:

— Злата, я думаў і думаў, і ўрэшце я дадумаўся да таго, што зусім не магу думаць, дык я рашыў перастаць думаць.

Сказаў ды ўсміхаецца.

Ва ўсіх зрабіліся смутныя твары, а маці Злата сказала:

— Зяма, ты думаў і думаў, дык павінен сядзець ды яшчэ думаць. Калі думаюць— трэба дадумаць да канца.

А сярэдні брат, які таксама быў упэўнены, што бацька нічога не прыдумае, таксама сказаў:

— Тата, яшчэ крыху падумай. Ты так доўга думаў, дык думай яшчэ дзень, яшчэ тыдзень. Думай, тата, думай.

А Маечка зноў расплакалася:

— Думай, тата, лялька павінна хадзіць, павінна, павінна, павінна!

— Я больш не ў сілах думаць,—сказаў бацька,—усяму бывае канец!

Аднак маці і дзеці якраз цяпер хацелі, каб бацька думаў. Гэтулькі часу думаў, дык трэба яшчэ крыху, нешта выйдзе, нешта павінна выйсці. Бацька ўсё ўсміхаецца, уводзіць усіх у свой пакой і знімае заслону з лялькі.

— Калі думаюць, дык прыдумваюць,— кажа бацька.—Калі працуюць, дык штонебудзь і выходзіць. Вось яна мая хадзячая лялька. Вы толькі дзівіцеся на прыгажуню, прыгажэйшую за ўсіх лялек на свеце ўсіх часоў і ўсіх краін.

Ён заводзіць ляльку, як заводзяць гадзіннік, і лялька пачынае крочыць. Потым ён расчыняе ляльку—у сярэдзіне ёсць шрубачкі, спружыны і калёсікі, цэлая машынэрыя ў сярэдзіне. Потым ён яе зноў зачыняе, і лялька крочыць, як чалавек.

У хаце стала весела. Маці напякла бліноў, а Маечка думала, што зноў надышло свята, як у Першае Мая. Дык яна прычапіла на сябе чырвоны банцік. Маці спявала, і ўсе суседзі збегліся. Маечка думала, што лялька будзе саромецца хадзіць пры суседзях, але тая не сарамілася, адважна прагульвалася.

Прышлі людзі з цэнтральнай вуліцы паглядзець на ляльку. Нават міліцыянер сышоў з паста паглядзець на ляльку. Потым ён пачаў глядзець за парадкам, каб не набілася ў хату замнога людзей; потым лялька вышла на вуліцу, зышла з гары, і Маечка ледзь дагнала яе. Усе людзі на вуліцы спыняліся і ўступалі ёй дарогу. Калі яна хадзіла па вуліцы, спыняліся ўсе трамваі, каб яе не пераехаць.

Бацька набыў сабе вялікаю славу. Прышлі таварышы з фабрыкі вітаць бацьку. Прышлі фатографы здымаць з яго партрэт. Бацька павінен быў хадзіць у святочным касцюме, бо яго ўвесь час фатаграфавалі.

Пасля фабрыка наладзіла ў клубе вечар

дзе прэміравалі бацьку: усімі творамі Леніна яго прэміравалі, патэфонам і яшчэ дзесяццю добрымі падарункамі. І ў газетах аб ім пісалі, што ён выдумаў хадзячую лялькy, што яго дачушка Маечка ўжо забаўляецца такой лялькай, і партрэт Маечкі разам з лялькай быў таксама надрукаваны ў газеце. Але не ўсе суседзі маглі пазнаць на партрэце, хто тут Маечка і хто тут лялька.

Аднаго разу ўвесь дзіцячы сад разам з настаўніцай прышлі паглядзець лялькy. Маечка паказала яе і сказала, што бацька наробіць для ўсіх дзяцей такіх лялек.

Цяпер бацька ўжо не ходзіць задуманы, але ён кажа, што праз месяц ён зноў пачне думаць. Ён яшчэ хоча, кажа ён, прыдумаць маленькі аўтамабіль для лялькі, каб яна магла катацца, як патрабуецца для такой лялькі.



Маці кажа:

— Калі бацька што-небудзь скажа, дык напэўна зробіць гэта. Ён правільна кажа. Ён мне заўсёды казаў, каб я ішла спяваць. Сягоння слухалі мяне, дык сказалі, што ў мяне вельмі добры голас. Дык я-ткі буду вучыцца.

Старшая сястра кажа:

— Маці праўду сказала. Трэба скончыць карціну пра зіму.

Яна сапраўды закончыла. А на выстаўцы дзіцячых малюнкаў яна атрымала прэмію за карціну.

— Старшая сястра правільна зрабіла,— кажа сярэдні брат,—я сёння здаў арыфметыку на „добра“. Трэба толькі брацца, тады ўсё будзе добра.

Маечка кажа:

— Больш я плакаць не буду. Лялька ўжо ходзіць.

Маці вельмі шануе бацьку. Старшая сястра слухаецца маці. Сярэдні брат разумее, што сястра ведае больш за яго. Малодшая сястра не дражніцца з сярэднім братам. Маечка не сварыцца з братам.

Лялька слухае Маечку.

*Пераклаў з яўрэйскай мовы З. БЯДУЛЯ*



# ДРОНІК





Я. КОЛАС

Гора-ліха па лесе брыло
  У нядобрай прыгодзе:
Моцна дроздзіку нехта крыло
  Пакалечыў, пашкодзіў.

І не можа цяпер, небарак,
  На галінку ўзляцеці.
Хіба можна яго кінуць так
  Марна гінуць на свеце?

Зловіць воўк яго, цапне лісок
  Ці сабака злы гончы.
Ён забіўся ў густы верасок,
  Каб жыццё там закончыць.

Шкада стала Міхасю да слёз—
  Чуць над ім не заплакаў.
З лесу дроздзіка ў хату прынёс
  Палячыць небараку.

Пасадзіў у пачэсны куток
  На шырокім услоне.
„Ты не бойся, мой дроздзік-браток!“
  І назваў яго „Дронік“.
І хадзіў і лячыў ён яго,
  Даглядаў, ну, як брата;
Ягад, хлеба яму і ўсяго
  Зносіў шчодра, багата.

Нават хатку зрабіў ён яму
  З вераска, голек, моху.
Але Дронік памёр пад зіму.
  Бедаваў Міхась, вохаў.

Збудаваў ён з фанеры труну
  І злажыў яму вершы:
„Бедны Дронік навекі заснуў.
  Спі без часу памершы!“

І насыпаў курган пад акном,
  Напісаў яшчэ гэтак:
„Спачывай-жа спакойным тут сном
  У садку сярод кветак.“

Рыс. К. Гедда.




# На скрыпцы

*ШОЛАМ-АЛЕЙХЕМ*

*Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА.*

*(Урывак з апавядання)*

Сёння, дзеці, я вам крыху паіграю на скрыпцы. Няма, здаецца мне, нічога прыгажэйшага і лепшага, як умець граць на скрыпцы. Хіба не праўда? Не ведаю як вы—я з самых малых год гатоў быў жыццё аддаць за скрыпку і ад усяго сэрца захапляўся наогул музыкамі, любіў іх бясконца! Як толькі вяселле ў мястэчку, я першы бягу на паклон да музыкаў, падкрадваюся ззаду да басэтлі, пацягну тоўстую струну: бум!—і наўцёкі, бум!—і наўцёкі. За гэты „бум“ мне аднаго разу папалася ад Берл баса. Берл бас, злосны чалавек з прыплюснутым носам і пільным позіркам, прытварыўся, нібы не прыкмячае, што я падкрадваюся да басэтлі, а калі я працягнуў руку да тоўстай струны, ён цапнуў мяне за вуха і з пашанай падвёў да самых дзвярэй:

— На, галузда, цалуй клямку!

А мне хоць-бы што. Я не адыходзіў ад музыкаў ні на крок.

Я іх усіх любіў, пачынаючы ад Шайкі скрыпача з прыгожай чорнай бародкай і тонкімі белымі пальчыкамі, і канчаючы Гецей барабаншчыкам з ёмкім гарбом і—перапрашаю ваш гонар—вялізным плехам да самых вушэй. Не раз і не два, хаваючыся, каб мяне не выгналі, я ляжаў пад зэдлікам і слухаў як музыкі граюць. Адтуль, з-пад зэдліка, я сачыў вачыма за тонкімі пальчыкамі Шайкі, як яны скачуць па струнах, і лавіў слыхам салодкія гукі, якія ён так цудоўна атрымліваў са сваёй скрыпкі.

Кожны раз пасля гэтага я хадзіў некалькі дзён падрад як у дурмане. Шайка са сваёй скрыпачкай стаяў перад маімі вачыма. Уначы бачыў яго ва сне, а ў дзень на яве—ён не знікаў з маіх думак. Я ўяўляў нібы я—Шая скрыпач. Я выгінаў левую руку, рухаў пальцамі і вадзіў правай рукой, нібы смычком, пры гэтым схіляў галаву на бок, крыху прыплюшчваў вочы—акурат Шайка, цюцелька ў цюцельку!

Гэта было якраз у хэдары. Заўважыў мой рэбэ Нота-Лейб, што я нейкія штукі рукамі раблю, закідваю галаву і бліскаю вачыма, ды як сыпне мне шчырую аплявушыну,

— Ах ты, гультай! Вучыш яго азбуцы: а ён выкрыўляецца, мух ловіць!

Я даў сабе слова: няхай свет перавернецца дагары нагамі, а я павінен набыць скрыпку, нічога не пашкадую! Але з чаго ро-

быць скрыпкі? Вядома, з „кедравага“ дрэва. Лёгка сказаць—кедравае дрэва! Дзе-ж дастанеш гэтае дрэва, калі расце яно, кажуць, толькі ў зямлі ізраільскай? На тое шчасце стрэльнула мне ў галаву ўдалая думка. У нас была старая канапа, што засталася нам у спадчыну яшчэ ад дзеда рэб Аншэла. За гэту канапу адбываліся бойкі паміж двума маімі дзядзькамі і нябожчыкам бацькам. Дзядзька Беня даводзіў, што ўсе правы на канапу належаць яму, бо ён старэйшы сын. Дзядзька Сендар даводзіў, што канапу ён павінен забраць, бо ён самы малодшы. А нябожчык бацька зямлю грыз за тое, што ён толькі зяць, дык ён сам тут з боку прыпёку, аднак паколькі яго жонка, гэта значыць маці мая, ядыначка ў дзеда, канапа паводле ўсіх законаў належыць ёй. Гэта раз. А па-другое, канапа стаіць у нашым доме, таму гэта наша канапа. У справу ўмяшаліся абедзве цёткі, цётка Ітка і цётка Злата, і давай плёткі плесці вакол канапы. Цэлы шурум-бурум падняўся ў горадзе пра канапу. Каротка кажучы, канапа засталася ў нас.

Гэта была простая драўляная канапа, але абцягнутая зверху тонкім драўляным лістом, які адклеіўся у некалькіх месцах і надзімаўся ў пухір. Вось гэты самы верхні пласток, які выгінаўся бугаркамі, быў з сапраўднага „кедра“, з якога робяць скрыпкі. Так гаварылі ў хэдары. Адну хібу мела канапа, але гэтая самая хіба была яе вартасцю. Сядзеш на яе, дык не ўстанеш, бо яна стаяла заднімі ножкамі на ніжэйшым месцы. З пярэдняга краю канапа ўзнята была бугарком, а па сярэдзіне яма. У тым і была яе вартасць, што ніхто на ёй сядзець не хацеў. Канапу паставілі ў кутку, далі ёй „чыстую адстаўку“.

Вось гэта канапа і прывабіла маё вока. Смычок я ўжо даўно падрыхтаваў. Быў у мяне сябар Шымак, сын балаголы* Юдл, дык ён мне абяцаў жмутак валасоў з хваста бацькавага каня. А жывіцу для змазвання смычка я сам здабыў. Я не любіў спадзявацца на ўзвей-вецер. Я гэта вымяняў у свайго сябра Меер-Ліпы, сына ўдавы Соры, на кавалак сталі з матчынай крыналіны, што валялася па чардаку.

Словам, я меў усё, што трэба для скрыпкі. Засталося толькі адно: адкалупаць „кедр“ з канапы. Я выбраў для гэтага самы ўдалы час: маці сядзіць у краме, бацька дрэмле пасля абеда. Я дастаў цвік, залез у цёмны куток да канапы і горача ўзяўся за работу. Бацька праз сон пачуў як нехта шурхаецца. Спачатку ён, мабыць, думаў, што гэта скрабуць мышы, і пачаў іх пужаць з свайго ложка: „Кыш! кыш!“ Я здранцвеў. Бацька перавярнуўся на другі бок, і калі я пачуў, што ён сапе, я зноў узяўся за работу. Раптам бачу—бацька стаіць тут-жа і пазірае на мяне здзіўленым поглядам. Мабыць, ён ніяк не мог адразу ўцяміць, у чым справа. Потым, калі ён угледзеў пакалечаную канапу, ён мяне вывалак адтуль за вуха і так моцна біў, што я абамлеў і мяне потым адлівалі халоднай вадой.

— А божанька ты мой! Што ты зрабіў з дзіцем!—галасіла маці са слязамі на вачах.

— Наследнічак твой! Ён мяне жыўцом у магілу ўвагоніць!—кажа бацька, бледны як палатно, хапаецца за сэрца і кашляе некалькі хвілін.

— Дзеля чаго такая згрызота? — кажа маці.—Ты і без гэтага хворы! Зірні, які ў цябе выгляд. Няхай нашы ворагі так выглядаюць!



* Фурман.

# ШТО ТАКОЕ ДОБРА І ШТО ТАКОЕ ДРЭННА?

**В. МАЯКОЎСКІ**

**Рыс. ГЕДДА**

Сын маленькі
к бацьку
падышоў спытацца:
— Што такое
добра
і што такое
дрэнна?
Як мне разабрацца?
Я падслухаў,
і для вас,
малалеткі, мігам
бацькі гэтага адказ
запісаў
у кнігу.
— Калі дождж,
і ля варот
гразка,
непрыемна,—
кожны знае—
гэта вот
для прагулак
дрэнна.
Дождж пакапаў
і прайшоў.
Сонца
ў цэлым свеце.
Гэта—
добра, малышок
і старым
і дзецям.
Калі
сын
чарней ад ночы,
і не любіць
мыцца,—
гэта
вельмі
дрэнны хлопчык,
нікуды не гадзіцца.
Калі-ж
хлопчык
любіць мыла,
не лянуецца ўставаць,





гэты хлопчык
вельмі мілы,
робіць добра, што й казаць.
Калі, скажам,
б'е хлапчук
слабага, малога,
я і ў кніжку
не хачу
устаўляць
такога.
Гэты кажа:
— Не чапай
тых,
хто меншы ростам!—
Гэты хлопчык,
так і знай,
Заглядзенне проста!
Калі хлопчык,
як дзівак,
кніжкі рве
і топча,
акцябраты кажуць так:
дрэннаваты хлопчык.
Калі любіць
працаваць,
да навук
ахвочы,—
пра яго трэба сказаць:
гэта
добры хлопчык.
Ад вароны
карапуз
уцякае з крыкам.
Гэты хлопчык
проста трус,
ды яшчэ
вялікі.
Гэты,
хоць з вяршок хлапец,
птушак
не баіцца.

Ён адважны,
маладзец,
ёсць чым
пахваліцца.
Гэты
ў гразь палез
і рады,
што ў гразі кашуля.
Пра такога
акцябраты
кажуць:
ён гразнуля.
Гэты
хлопчык заўжды
мые
сам
галошы.
Хоць малы
ён, праўда,
ды зусім харошы.
Помні
гэта,
кожны сын,
кожны знай,
дзіцёнак:
з сына
вырасце,
свін,
калі сын—
свінёнак.
Хлопчык вельмі
рады быў,
і рашыў сумленна:
„Буду
добра
я рабіць
і не буду—
дрэнна“.

*Пераклад А. Якімовіча*





# МЯДЗВЕДЗЬ

*Беларуская народная казка*

**Рыс. Н. МАЛЕВІЧА**

Жыў адзін дзед са сваёй бабулькай. У гэтага дзеда была кабылка немудроная. Паехаў ён араць пад лес. Кабылка гэта не вязе—прыстала. Узлаваўся дзед ды вылаяўся:

— Но-о, каб цябе мядзведзь задраў!

А ён з лесу, мядзведзь гэты, выходзіць ды гаворыць:

— Давай, задзяру.

Спужаўся дзед і давай прасіць звяругу:

— Мядзведзюшка, лябёдушка, дай хоць гонюшкі заараць.

— Ну, заары ўжо, а я паляжу ля калёс у цябе.

Лёг мядзведзь. А дзед паехаў зноў да лесу і арэ.

Выскаквае лісіца з лесу і гаворыць:

— Чалавек, чалавек, хто у цябе ля калёс ляжыць?

— А гэта-ж мядзведзь,—адказвае дзед,— хоча кабылку задраць маю, ды я папрасіў, пакуль гонькі заару, паляжаць там.

— Дасі пару куранят, дык я параю, як табе яго ўхадзіць.

— Дам, дам.

— Прыедзеш да калёс, дык ён цябе папытае, хто з табою гаманіў, а ты кажы: „А гэта, стральцы, кажуць, ходзяць, мядзведзя пытаюць:—„Ці не мядзведзь гэта ў цябе ляжыць ля калёс?“ А ты далей кажы: „Гэта калода гнілая“. А стральцы скажуць: „Каб-жа калода, гнілая, дык яна-б на калёсах ляжала“.

Скончыў дзед араць поле і прыходзіць да мядзведзя ды гаворыць усё, чаму яго вучыла ліса.

Падумаў мядзведзь ды і гаворыць:

— Дык дапамажы трошку ўзлезці мне на калёсы.

І зноў, нібы не разумеючы дзеда, спытаў мядзведзь:

— Хто-ж гэта з табой гаманіў?..

— Гэта стральцы пытаюць: „Мядзведзь хадзіў і сляды тоіў. Ці не мядзведзь гэта



ў цябе на калёсах ляжыць?“ А я і кажу: „Калода гнілая“. А стральцы мне і адказваюць: „Каб-жа калода гнілая, дык сякера-б тырчала ў ёй“.

— А ты ўтыркні мне троху ля вуха.

Дзед гэта ўзлез на калёсы ды як стукнуў сякерай яму каля вуха, дык той і апусціўся. Засек дзед мядзведзя.

Паехаў зноў дзед да лесу. Лісіца выскаквае:

— Чалавек, чалавек, ці ўходзіў мядзведзя?

— Уходзіў, лісухна-матухна.

— Каб-жа мне пару куранят за гэта прывёз.

— Дзякуй, лісухна-матухна, прывязу.

Узараўшы поле, паехаў дзед дамоў. Прывёз гэтага мядзведзя, аблупіў яго і хату накрыў, бо хацінка-ж была маленькая. Потым узяў кораб, паставіў на калёсы і поўны кораб насадзіў сабак,—ну, так штук дзесяць. І паехаў у лес на палянку, павёз гэтых сабак. І пару куранят пад паху схаваў.

— У-іх!—гэта яна ўжо, лісіца, выскаквае на палянку; значыць, куранят прывёз дзед.

Дзед пусціў гэтых пару куранят.

— Э-эй!—Лісіца давай лавіць гэтых куранят.

А дзед тады кораб сабак гэтых—чабурах!—выпусціў.

Як узялі яны яе ганяць. Бегала яна, бегала, покуль у норку не ўскочыла.

— Ножухны-ж мае, ці-ж хутка вы беглі, каб шарко-бялько не ўхапіла?

— Хораша, лісухна-матухна, беглі.

— А ты, хвасцішча-бялішча, хораша-ж валокся, каб шарко-бялько не ўхапіла?

— Я то за корч, то за калоду чапляўся, каб цябе шарко-бялько ўхапіла.

— Шарко-бялько, на лісавы хвост!

А сабакі—хап!—яе за хвост і вывалаклі.

А дзед даўбешкай—цап!—і забіў лісіцу.

Прывёз дамоў дзед лісіцу, аблупіў ды бабцы каўнер пашыў.

І зажылі дзед ды бабка весела і радасна пад цёплымі скурамі мядзведзя і лісіцы.

Запісана ад калгасніка Ільі Раманавіча Шарокава, 61 год, у калгасе „Комінтэрн“, Маслакоўскага сельсовета, Горацкага раёна. *Запісаў* **А. Есакоў.**






Я. ЖУРБА

Веснавое сонца
Росы падбірае.
Вылецела ў поле
Пчолка залатая.

Ёй за шчырай працай
Весела на полі.
Луг прыбран у кветкі,
І наўкол раздолле.

З рання да змяркання
Пчолка залатая

Лётае па кветках
Ды мядок збірае.

Назбірала пчолка
Пыльцы і мядочку;
Ім накорміць дзетак
У сваім дамочку...

У вуллі шумліва.
Праца там кіпела.
Вечарам з дабычай
Пчолка прыляцела.

## ЛЮБЛЮ ВЯСНУ



Люблю вясну, люблю гамонку птушак,
Люблю прастор квітнеючых палёў
І шум вады, і звон маленькіх мушак,
І песню гулкую магутных трактароў.

Люблю траву, зялёныя лісточкі,
Люблю пяшчотны подых вецярка,
Люблю збіраць пахучыя цвяточкі,
Люблю цябе, шумлівая рака...

Люблю вясну, люблю сваю краіну
І твой разгон, калгасныя палі,
Люблю цябе, о жытняя раўніна,
Дзе зацвітае колас малады!



**Дзяткор Стась Кацубо**

# СТАРОНКА ДЛЯ ЗУСІМ МАЛЕНЬКІХ




**Казка БРАТОЎ ГРЫМ**

Жыла-была адна бабулька, старая-старая. Восемдзесят год ёй было. Пайшла гэтая бабулька на гарод, сабрала цэлую жменьку бобу і захацела яго зварыць.

„Вось,—думае,—звару боб і паабедаю“.

Распаліла яна пліту і, каб агонь разгарэўся лепш, падкінула пучок саломы.

А потым пачала сыпаць у гаршчок боб.

Вось тут усё і пачалося.

Калі сыпала яна боб у гаршчок, адна бобінка ўзяла ды ўпала на падлогу.

Упала і ляжыць побач з саломінкай.

І сюды-ж, на падлогу, скочыў з печкі распалены вугалёк.

Вось саломінка і кажа:

— Добрыя сябры, адкуль вы тут?

— Я,—адказвае вугалёк,—з печкі. Калі-б,—кажа,—я адтуль не выскачыў, я-б загінуў, давялося-б мне згарэць і рассыпацца залою.

А бобінка кажа:

— І мне пашанцавала, што я сюды ўпала, а то давялося-б мне, як і іншым маім прыяцелям—бабам, у кашу разварыцца.

А саломінка кажа:

— І я рада, што ў печку не трапіла, а тут ляжу.

— Ну, а што-ж мы цяпер будзем рабіць?—пытае вугалёк.

— Я думаю,—сказала бобінка,—вось што. Пойдзем вандраваць.

— Пойдзем, пойдзем,—сказалі вугалёк і саломінка.

І пайшлі яны разам—бобінка, саломінка і вугалёк.

Доўга ішлі і прышлі да ручая.

Ручай маленькі, вузенькі, а перайсці праз яго нельга,—мосту няма. Як тут быць?

Тады саломінка кажа:

— Мы вось як зробім: я перакінуся з беражка на беражок, а вы па мне пяройдзеце як па мосце.

Так яны і зрабілі. Перакінулася саломінка з берага на бераг, і першым пабег па ёй вугалёк. Бяжыць як па мосце. Дабег ён да сярэдзіны, чуе—плешча ўнізе вада. Стала яму страшна, спыніўся ён і крычыць:

— Баюся вады, баюся вады!

А пакуль ён стаяў і крычаў, саломінка ад яго загарэлася, распалася на дзве часткі і паляцела ў ручай. Вугалёк таксама ўпаў у ваду. Ён зашыпеў: „Таплюся, ратуйце“, і пайшоў на дно.

А бобінка асцярожнай была, яна на беразе засталася.

Засталася на беразе і давай смяяцца з вугалька і саломінкі.

Смяялася яна, смяялася—і лопнула ад смеху.

Дрэнна-б ёй было, ды, на яе шчасце, сядзеў на беразе вандроўны кравец.

Дастаў кравец нітку і сшыў абедзве палавінкі бобінкі.

А таму, што ў краўца белых нітак з сабой не было, ён зашыў бобінку чорнай ніткай. З таго часу ва ўсіх бобінак чорны шоў пасярэдзіне.



## ЖАРТ

— Хвядос чаго надзьмуўся?
— Кашулю прапаліў.
— Можна залатаць.
— Іголкі няма.
— І вялікая дзірка?
— Адзін каўнер астаўся.





## ПУСТЫ КОЛАС

Ішлі полем бацька з сынам.

— Чаму гэта,— пытаецца сын,—адзін колас гнецца да зямлі, а другі стаіць проста, як чароцінка?

— Адзін колас поўны,—адказаў бацька,—у ім шмат зярнят, яны яго і цягнуць уніз; вось ён і гнецца і прыпадае да зямлі. А другі колас пусты: у ім няма ніводнага зерняці. Вось ён і лезе ўсё ўверх.

Прыказкі: Парожні мех надзімаецца. Пустая бочка мацней грыміць.

## ЛЕСНІЦА

*(Байка)*



Стаяла каля сцяны лесніца. Хаця ўсе ступені ў лесніцы былі роўныя між сабою, але верхняя ступень ганарылася перад ніжнімі.

Праходзіў міма чалавек. Ён пачуў, як верхняя ступень важнічала, узяў лесніцу, перавярнуў яе і пайшоў сваёю дарогаю.

І самая верхняя ступень стала цяпер ніжняю.



# ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ?

## ПТУШКІ-МУХІ

На зямлі водзіцца шмат розных птушак з прыгожым апярэннем і формай крылляў. Але самыя прыгожыя і самыя маленькія птушкі на зямлі—гэта калібры. Прырода асыпала гэтую птушку ўсімі дарамі:—лёгкасць, жвавасць, лоўкасць, прывабнасць і багацце ўбранняў. На працягу свайго жыцця калібры ні на адзін момант не дакранаюцца да зямлі, а трымаюцца ў паветры, пералятаючы з кветкі на кветку. Калібры п'юць нектар—такі салодкі сок з кветак—нібы пчолы. Водзяцца яны у Амерыцы, дзе іх налічваецца да 400 відаў, з якіх самы маленькі—крыху больш нашага чмяля. Калібры—калі яны порхаюць або лётаюць у паветры—сваім апярэннем зззяюць нібы кавалак вясёлкі.



## ГНЯЗДО З ПЕНЫ

У водных басейнах Кітая водзяцца невялікія рыбкі—макраподы. Рыбкі маюць доўгія, звісаючыя плаўнікі, з яркай афарбоўкай цела, напамінаючы нашага вокуня. Самцы макраподы будуюць гнёзды з пены—гэта шмат слізістых пузыркоў, напоўненых паветрам. Часта макраподаў разводзяць у акварыумах, бо яны надзвычай прыгожыя.

## КІВІ



На востраве Новай Зеландыі водзіцца цікавая птушка, якую туземнае насельніцтва называе ківі—або бяскрылыя. Велічынёю з курыцу, з валосападобным апярэннем—і зусім без крылляў. Быстрыя ногі замяняюць крыллі. Днём ківі хаваюцца ў норах, пад зямлёю або пад карэннямі вялікіх дрэў і толькі ноччу выходзяць паляваць на розных казявак і чарвей. Ківі кладзе адно яйцо куды-небудзь пад куст і зарывае рознымі прэлымі лісцямі. Ад гніення атрымліваецца цеплыня, якая патрэбна для роста зародка. Ківі цяпер налічваецца невялікая колькасць. У заапарках ківі з'яўляецца рэдкай птушкай.



## ГІСТОРЫЯ ПЯРА

У глыбокай старажытнасці людзі пісалі на каменнях долатам, на гліне металічнымі, дзеравянымі і касцянымі палачкамі і кістачкамі на пергаменце. У пачатку VII стагоддзя з'явілася гусінае пяро.

Гусіныя пер'і прадаваліся пачкамі па 30 штук. Пяро папярэдне апускалі ў гарачы пясок, каб удаліць з яго тлушч. Лепш за ўсё было пісаць пер'ямі правага крыла гуся: у іх быў больш зручны выгіб. Пер'ямі ворана, лебедзя, ястраба і грыфа малявалі мастакі, і гэтыя пер'і цаніліся даражэй гусіных.



Першае стальное пяро зрабіў у 1796 годзе нямецкі майстар гадзіннікаў Зенфельд. Але птушынае пяро доўга і ўпарта не ўступала свайго пачэснага месца стальному, і праз чатыры гады пасля гэтага вынаходства англічане ўсё-ж закупілі поўмільёна гусіных пер'яў. Толькі ў пачатку XX стагоддзя стальное пяро перамагло канчаткова, але кавалачку сталі была прысвоена старая назва—пяро.

ЦАНА 30 кап.

046

# УВОЛЬНЫ ЧАС

## Паспрабуй разняць

Для гэтага трука патрэбны два розныя па велічыні абручы (50 і 60 сантыметраў у дыяметры).

Вазьміцеся за абручы рукамі так, як паказана на малюнку: правай рукой—за меншы абруч, а левай (прапусціўшы яе праз меншы абруч),—за вялікі абруч.

Цяпер паспрабуйце, не адрываючыся ад абручоў, разняць іх.



## ЗАГАДКАВЫ МАЛЮНАК



Сабака брэша на кошку. Дзе кошка?

## ЗАГАДКІ

1. Да якога прыназоўніка трэба дадаць лічэбнік, каб атрымаць назву ракі?
2. Якія займеннікі робяць дрэннымі дарогі?
3. Якія займеннікі чыстыя?
4. Якому гораду мякка стаяць?
5. Я жывёліна рачная. Калі да першай літары маёй назвы дадаць літару Г, буду звацца птушкай.

## РЭБУС

С ЧАЛА У МАЙ решай ТОП

## АД РЭДАКЦЫІ

У першым нумары нашага журнала было надрукавана апавяданне Я. Маўра „Каршун", дзе былі наўмысля дапушчаны некаторыя недарэчнасці. Чытачы павінны былі іх разгадаць. Большасць правільных адказаў прыслалі наступныя рэбята:

1. Пётр Кузмянкоў—Расасенская НСШ. Дубровенскі р-н.
2. Ізя Ліўшыц—Урэцкая школа.
3. Мікола Антонаў—Смалянская НСШ. Аршан. р-н.
4. Дзяніс Савіцкі—Зубайская НСШ. Аршанскі р-н.
5. Іван Чыгуноў—Задуброўская НСШ. Суражскі р-н.
6. Алесь Зайцаў—Бабруйскі р-н.
7. Лія Зыскович—Сасноўская НСШ. Віцебскі р-н.

Гэтым рэбятам будуць дасланы прэміі.

Рэдактар І. МАСАРСКІ Афармленне В. Ціхановіча Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Менск. 20.000 экз. Зак. № 466. 2½ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № Ш 268